Падпісацца на «Народную Волю» можна ў любы дзень у любым паштовым аддзяленні ці ў спецыялізаваных пунктах «Белсаюздруку».

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

№ 29 (4487)

10 красавіка 2020 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.




# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

АВТОРИТЕТНО

## Всемирная организация здравоохранения: «Не время расслабляться!»

*Несмотря на сравнительно позитивные новости из Италии и Испании, Всемирная организация здравоохранения предупреждает об опасности снятия ограничений, наложенных на значительную часть населения земли.*

Коронавирус, может быть, и отступает из некоторых стран, но он еще не побежден.

**Ханс Анри Клюге**, директор Европейского регионального бюро ВОЗ, убежден, что «сейчас не время для ослабления жестких мер»: «*Сейчас время для того, чтобы удвоить, утроить совместные усилия по подавлению коронавирса при поддержке всего общества*».

Клюге призвал все страны, независимо от их нынешнего положения, усилить свою работу по трем направлениям: обучать и готовить медицинский персонал, продолжать карантин и самоизоляцию, а также искать новые способы обнаружения и лечения инфекции и делиться своими открытиями в масштабах всего мирового сообщества.

На этом фоне Европейский центр профилактики и контроля заболеваний подчеркивает, что в целом в Старом Свете пик эпидемии еще не достигнут. Хотя в Испании и Италии уже говорят о стабилизации, в таких странах, как Швеция и Турция, развитие эпидемии только начинается.

ТРЕВОЖНАЯ ТЕМА

## Число зараженных коронавирусом в Беларуси приблизилось к 1,5 тысячи

На утро четверга всего зараженных было 1486, из них 139 выздоровевших и 16 умерших, остальные находятся на лечении.

Число инфицированных коронавирусом в Беларуси приблизилось к 1,5 тысячи, свидетельствовали данные Минздрава на вчерашнее утро.

В стране проведено около 49 тысяч тестов. В больницах находится 1331 пациент.

## Пик эпидемии COVID-19 в Беларуси прогнозируется в конце апреля – начале мая

*Об этом вчера в парламенте сообщил министр здравоохранения Владимир Караник.*

Перед медиками Беларуси стоит задача не допустить лавинообразного роста заболеваемости COVID-19, сказал глава Минздрава.

– *На сегодняшний момент наша задача – пытаться изолировать всех выявляемых пациентов, делать много тестов, изолировать контакты, для того чтобы не допустить лавинообразного роста заболеваемости и перегрузки системы здравоохранения*, – цитирует belta.by Караника.

Министр здравоохранения рассказал и о преимуществах стратегии смягчения последствий COVID-19, которой придерживается Беларусь. Другая стратегия – тотального разобщения – имеет ряд минусов. Она чревата повторной вспышкой заболеваемости после ослабления карантинных мер, пояснил министр.

ДУХОЎНЫ СВЕТ

Арцыбіскуп Тадэвуш КАНДРУСЕВІЧ:

## «Уваскрасенне Хрыста – задатак будучай славы»

*Пастырскае пасланне на Вялікдзень-2020*



Хрыстус уваскрос! – Сапраўды ўваскрос!

Глыбокапаважаныя святары, кансэкраваныя асобы, браты і сёстры, суайчыннікі, людзі добрай волі!

**1.** Сардэчна віншую вас са святам Вялікадня – святам нашай веры і надзеі на вечнае жыццё. Гэтая праўда з'яўляецца галоўным пасланнем свята Уваскрасення Хрыста. Пра яе мы, хрысціяне, павінны заўсёды памятаць і ёю жыць. Яе актуальнасць падкрэслівае таксама і выкліканая пандэміяй каранавіруса сітуацыя, у якой уваскрасенне Хрыста з'яўляецца промнем надзеі, нават насуперак надзеі (пар. *Рым* 4, 18).

*Як Езус выйшаў жывым з цёмнай магілы, гэтак і мы верым, што дзякуючы Богу, намаганням лекараў і адказных за грамадскі прадак, якім мы бязмерна ўдзячны за іх ахвярнае служэнне, таксама зможам паспяхова выйсці з цемры эпідэміі, якая ахінула зямлю, у святло жыцця.*

**2.** Сёння мы павінны засяродзіць нашую ўвагу на тым, што адбылося ў Пасхальную ноч. Праўда ўваскрасення Хрыста азначае, што смерць – гэта не канец, што яна не мае апошняга слова, што гэта толькі дзверы ў будучыню. Таму мы не можам дазволіць, каб гэтая праўда знікла з нашага жыцця. Яна павінна быць яго цэнтрам, і нам нельга страціць яе сэнсу.

Пасха заклікае да пытанняў, на якія неабходна даць адказ. Які сэнс жыцця? Якая яго мэта? Дзе знаходзіцца сэрца і думкі чалавека падчас яго зямнога жыцця? Часовае жыццё на зямлі – гэта падрыхтоўка да вечнасці. Калі мы не імкнёмся да гэтага, то становімся падобнымі да карабля, які сеў на мель. Карабель ёсць, але не можа плысці, а яго прызначэнне – перавозіць людзей або грузы. Таксама і мы, калі не засяроджваемся на галоўнай праўдзе нашай веры – уваскрасенні Хрыста, – то жывём без яснай мэты.

Сёння перад перспектывай нашай будучыні, якую нам адкрывае праўда Уваскрасення, нам неабходна засяродзіцца на некаторых тэндэнцыях жыцця сучаснага чалавека. Матэрыяльныя каштоўнасці, дух спажывальніцтва, задавальненні і прасоўванне па кар'ернай лесвіцы з'яўляюцца галоўнымі крытэрыямі паспяховасці сучаснага чалавека.

Касцёл не супраць таго, каб чалавек жыў годна, і шмат робіць для таго, каб свет развіваўся згодна з прынцыпамі сацыяльнай справядлівасці. Аднак імкненне да ўзбагачэння любым коштам, можа нават, ідучы па касцях іншых людзей, і абагачэнне матэрыяльных каштоўнасцяў не спалучаецца з маральнымі нормамі хрысціянства. Успомнім евангельскі аповед пра чалавека, які сабраў багаты ўраджай і казаў сабе, што можа адпачываць, есці, піць і весяліцца. На гэта Бог яму сказаў, што ўжо гэтай ноччу забярэ яго душу, і каму тады дастануцца ўсе яго багацці (пар.*Лк* 12, 16–21).

Вялікую заклапочанасць выклікае адыход ад традыцыйных хрысціянскіх каштоўнасцяў і выбар амаральнага стылю жыцця.

*Укараняецца секулярызм і вельмі небяспечны маральны рэлятывізм, які не прызнае абсалютнай праўды і ўсё лічыць адносным.*

Прапагандуецца неабмежаваная свабода без маральнай адказнасці. Такі шлях вядзе да размывання сапраўдных каштоўнасцяў і ўсёдазволенасці.

Вялікай праблемай з'яўляецца заняпад духоўнага жыцця, найперш малітвы. Сучасны чалавек настолькі заняты часовымі справамі, што не мае часу маліцца. Цяжка зразумець таго, хто кажа, што верыць у Бога, але не моліцца і не ставіць малітвы ў цэнтр свайго жыцця.

У выніку замест таго, каб піць з крыніцы чыстай вады Божай ласкі, мы аддаём перавагу бруднай жыжы з дамешкамі секулярных і антыхрысціянскіх інгрэдыентаў. У сучасным прагматычным свеце, скіраваным на спажывальніцтва і задавальненне, дзе ўсё купляецца і прадаецца, няма месца духоўнасці, справядлівасці і маралі. Усё знаходзіцца ў палоне часовасці.

**3.** Пасхальная праўда адкрывае перад намі новую перспектыву вечнасці, бо і мы ўваскрэснем, як Хрыстус уваскрос. Запэўнівае нас у гэтым святы апостал Павел, які ў Першым пасланні да Карынцянаў кажа:

«*Як у Адаме ўсе паміраюць, так і ў Хрысце ўсе будуць ажыўлены. Кожны ў свой час: першы Хрыстус, потым тыя, хто належыць Хрысту, падчас прыйсця Ягонага*»(*1 Кар* 15, 22–23).

Гэтыя словы Апостала народаў схіляюць нас да змены нашага жыцця згодна з Божым законам. У выніку наступаючай секулярызацыі хрысціяне перастаюць быць соллю зямлі і святлом свету (пар.*Мц* 5, 13–16). Замест таго каб бруіцца духоўным жыццём, хрысціянства робіцца пасіўным і абыякавым. Такое хрысціянства з'яўляецца хрысціянствам без Хрыста.

Падчас малітвы аб вызваленні ад эпідэміі каранавіруса 21 сакавіка на пустой плошчы Святога Пятра ў Рыме Папа Францішак звярнуўся да свету з наступнымі пранікнёнымі словамі: «*У нашым свеце мы рухаліся наперад на поўнай хуткасці, адчуваючы сябе моцнымі і здольнымі на ўсё. Прагныя да заробку, мы дазволілі, каб нас паглынулі рэчы і каб мітусня звяла нас. Мы не спыніліся перад Божымі заклікамі, не абудзіліся перад абліччам сусветных войнаў і несправядлівасці, не паслухалі крык бедных і нашай цяжкахворай планеты. Абыякавыя, мы пайшлі далей, думаючы, што заўсёды застанёмся здаровыя ў хворым свеце. Цяпер, калі мы знаходзімся на ўзбураным пандэміяй каранавіруса моры, мы просім Цябе, Пане: дапамажы!*»

У сувязі з маральна нездаровай сітуацыяй сучаснага свету ўзнікае пытанне, на якое свята Уваскрасення Хрыста патрабуе адказу: «Ці мы жывём праўдай вечнай славы, якая нас чакае?» Гэта сутнаснае пытанне. Калі так, то клопаты нашага зямнога жыцця набываюць новае вымярэнне. А менавіта, яны не павінны весці ў рабства матэрыяльных каштоўнасцяў і амаральных задавальненняў і не станавіцца нашым «богам».

*Мы верым у шчаслівую будучыню і спадзяёмся дасягнуць яе, бо з'яўляемся хрысціянамі.*

Хрост – гэта сертыфікат нашай прыналежнасці да хрысціянства, гэта нашае хрысціянскае ДНК. А хрысціянства адкрывае перад намі перспектыву шчаслівай вечнасці. У сакрамэнце хросту мы паміраем для граху і ўваскрасаем да новага жыцця ў Божай ласцы. Менавіта таму ў Пасхальную Вігілію мы аднаўляем абяцанні хросту.

**4.** Евангельскія аповеды пра ўваскрасенне Езуса сведчаць пра тое, што камень ад магілы быў адсунуты. Гэтая акалічнасць дазволіла жанчынам, якія прыйшлі намасціць Яго, зазірнуць у грабніцу і ўбачыць, што яна пустая (пар.*Лк* 24, 1–3). Гэта таксама дазволіла апосталу Яну ўвайсці ўсярэдзіну яе і паверыць ва ўваскрасенне Хрыста (пар.*Ян* 20, 8).

А як з грахоўным каменем, які блакуе дарогу Езусу да нашых сэрцаў? Ці мы дазваляем, каб ён станавіўся ўсё большым, ці імкнёмся яго адсунуць? Мы павінны ад яго пазбавіцца, інакш Езус не ўвойдзе ў нашыя сэрцы і не ўваскрасіць да жыцця ў Божай ласцы, якая патрэбна для збаўлення.

Святы апостал Павел вучыць:

«*Калі ж вы ўваскрэслі з Хрыстом, шукайце таго, што ў вышынях, дзе Хрыстус сядзіць праваруч Бога; пра тое, што ў вышынях, думайце, а не пра зямное*»(*Клс* 3, 1–2).

Неба – гэта наша мэта, якой мы можам дасягнуць толькі праз Хрыста. Таму неабходна дазволіць Яму весці нас шляхам нястомнага ўваскрашэння з грахоўнай магілы да жыцця ў Божай ласцы. Апагеем бязмежнай Божай міласэрнасці з'яўляецца Пасхальная таямніца Хрыста. Даверымся ёй і кінемся ў яе абдымкі, каб велікодная радасць дзяцей Божых запанавала ў нашых сэрцах.

(Заканчэнне на 2-й стар.)

ЗДАРЭННЕ

## «Гэта ўсё нагадвала канец свету…»

*Старшыня Васілішкаўскага сельсавета Шчучынскага раёна Тамара Зубрыцкая распавяла “Народнай Волі”, як зараз жыве вёска, у якой згарэлі каля 20 дамоў.*

Вёска Нарчы днямі палыхала ў агні. Мясцовы 70-гадовы пенсіянер Генрых Коўчык паліў сухую траву, а згарэла некалькі дзясяткаў хат. На шчасце, ніхто з жыхароў не пацярпеў.

– У той дзень раніцай было ціха, магчыма, таму мужына і вырашыў спаліць смецце і траву, – кажа Тамара Іванаўна. – А затым падняўся вельмі моцны вецер, агонь разнесла ў імгненне вока, і спыніць яго было практычна немагчыма.

У выніку згарэлі 19 нежылых дамоў, два жылыя, 23 гаспадарчыя пабудовы, пашкоджаны два нежылыя дамы. Шэсць дамоў агонь не зачапіў, у тым ліку і таго самага пенсіянера.

**– Колькі зараз засталося жыхароў у вёсцы?**

– Толькі адна сямейная пара. Увогуле, на момант пажару хтосьці быў у бальніцы, нехта ў дзяцей…

Сёння (*9 красавіка*. – **Рэд.**) наведвалася ў Нарчы, там нікога няма, толькі галавешкі тырчаць. Дарэчы, многія людзі тэлефануюць, прапаноўваюць дапамогу тым, хто застаўся без даху. Гэта тры сям'і, якім прадастаўлена жыллё.

**– А дзе той мужчына, які паліў траву, а ў выніку згарэла вёска?**

– Яго да сябе дачка забрала ў аграгарадок Гурнофель, дзе ён, да слова, і зарэгістраваны. У Нарчы ў яго ўласны дом, прыехаў перад святамі добраўпарадкаваць тэрыторыю. Вось і атрымалася тое, што атрымалася.

Я, дарэчы, у той дзень сама была ў вёсцы Нарчы падчас пажару. Відовішча – не апісаць словамі, усё гэта нагадвала канец свету.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**



**P.S.** *Па гэтым факце распачата крымінальная справа, праводзіцца расследаванне.*

ГДЕ ЭТО ВИДАНО...

## В Кричеве отстранен от должности председатель исполкома

*39-летний Сергей Шацкий успел поработать руководителем местной вертикали всего-навсего 3 месяца. 2 апреля председатель Могилевского облисполкома Леонид Заяц отстранил его от должности. Исполнение обязанностей председателя Кричевского райисполкома временно возложено на заместителя председателя – начальника управления по сельскому хозяйству и продовольствию Игоря Метелицу.*



### Юридические тонкости

Признавая факт отстранения С.Шацкого от должности, в облисполкоме подчеркнули, что речь идет именно об отстранении, а не об освобождении. Отстранять от должности председателя райисполкома за совершение, к примеру, проступка, имеет право председатель облисполкома. Однако освобождать от должности руководителей из кадрового реестра президента можно только с согласия главы государства.

### За что отстранен С.Шацкий

А вот здесь начинается интрига. В облисполкоме журналистам отказались назвать причину отстранения кричевского руководителя. Областные «Могилевские ведомости», местная «Кричевская жизнь», сайт райисполкома вообще сделали вид, что такого факта не было – возможно, посчитали, что отстранение руководителя района от должности не является интересной для читателей информацией.

Автору этих строк пришлось обратиться к бывшим работникам райисполкома, имеющим связи с нынешними чиновниками. На условиях неразглашения фамилий мне было сообщено, что «якобы председателя исполкома застали на рабочем месте в нетрезвом состоянии. Кто-то вызвал проверку из облисполкома».

### Тайны кричевского двора

Версия с «пьяным председателем» широко гуляет по городу. Однако мало кто задумывается о том, что недавно назначенного руководителя вполне могли «заложить» в облисполком с далеко идущими целями. Мои информаторы в разговоре признались, что «*употребление спиртного на работе вообще-то никогда не являлось большим грехом еще с советских времен. Собирались коллективами, отмечали праздники, никто никого не закладывал. Знало или догадывалось об этом и вышестоящее начальство и не делало из этого проблемы, лишь бы работа шла*». В Кричеве, кстати, на протяжении долгих лет вполне лояльно относятся к одной даме, депутату и руководителю организации, о злоупотреблении спиртным которой ходят легенды. Даже «жесткий менеджер» товарищ Сталин был вполне терпим к товарищам по партии – алкоголикам, если они выполняли любые его приказы в свободное от пьянства время.

Теперь Александру Лукашенко предстоит принять решение на основании, будем надеяться, разносторонней и объективной информации, подготовленной спецслужбами и руководством облисполкома. Оценить, во благо города действовали люди, сообщившие о неблаговидном проступке (если, конечно, он имел место) кричевского руководителя, или кто-то преследовал свои личные цели. С учетом информационного вакуума, сопровождающего этот инцидент, было бы неплохо дождаться официальных комментариев от первого лица, раз уж С.Шацкий находится в его реестре.

Выскажу также свое предположение по поводу дальнейшей судьбы С.Шацкого. Если версия, о которой говорилось выше, верна, то отстраненный вполне может через некоторое время вернуться на свой пост с огромным желанием сформировать надежную команду, с которой можно не только работать, но и безбоязненно отмечать праздники. Если глубинные причины отстранения отнюдь не в нахождении председателя в «приподнятом настроении» на рабочем месте, то «проштрафившегося» могут просто перебросить в другой район либо передать расследование в правоохранительные органы, такое тоже иногда случается.

### Что известно о Шацком

26 декабря прошлого года он сменил на посту председателя кричевского райисполкома **Дмитрия Бочкова**, который руководил районом чуть более двух лет. Причины отставки Д.Бочкова официально не назывались, но говорили, что он «не оправдал надежд».

Сам С.Шацкий с 2018 года на одном месте долго не задерживался. Первым зампредом Горецкого райисполкома он поработал чуть более года, на такой же должности в Дрибинском райисполкоме – вообще два месяца.

Родом он из д.Высокое Оршанского района Витебской области. После окончания сельхозакадемии в Горках работал инженером-рыбоводом в Сенненском районе, на лесопильном участке в Оршанском районе, агрономом-бригадиром сельхозпредприятия «Тепличный», управляющим сельскохозяйственным участком «Девино», замдиректора по производству госпредприятия «Межево» Оршанского района. С 2011-го по 2018 год был первым замом в управлении сельского хозяйства и продовольствия Оршанского райисполкома.

В Кричеве назначение С.Шацкого с учетом его трудовой биографии и специальности инженера-рыбовода многими было воспринято с большой долей скептицизма. В то же время три месяца работы – это не тот срок, который позволяет делать далеко идущие выводы. В противном случае это явная кадровая недоработка вышестоящих чиновников, не отдающих себе отчета, в какой город они направляют руководителя. Может, следовало бы провести эксперимент – позволить кричевлянам самим избрать себе мэра. Уже очевидно, что кадровая чехарда завела некогда крупный промышленный город в экономический тупик.

**Сергей НЕРОВНЫЙ.**

*г.Кричев.*

БЛАГОТВОРИТЕЛЬНОСТЬ

# Дмитрий НЕВЕРОВИЧ: «Температуру измеряем всем!»



*Компания «Дарида» отвезла более 50.000 бутылок питьевой и минеральной воды в медицинские учреждения Беларуси. «Мы готовы и дальше оказывать помощь медикам», – говорит «Народной Воле» генеральный директор предприятия **Дмитрий Неверович**.*

– Заботясь о медиках, мы проявляем солидарность и выражаем признательность за их столь ценную работу, – *говорит Дмитрий Владимирович.* – Мы считаем своим долгом внести вклад в общее дело, именно в такие моменты сплоченность государства, бизнеса и общества позволит Беларуси справиться со всеми вызовами.

Мы постоянно помогаем и больницам, и соцучреждениям, и ветеранам. Но сейчас самое важное – чтобы не только мы, а весь белорусский бизнес откликнулся и помог тем, кто сегодня нуждается в нашей поддержке. Как говорится, с миру по нитке – голому рубашка.

**– Вы сами боитесь коронавируса? Как защищаете сотрудников? Отправили по домам?**

– Предприняли все необходимые превентивные меры. У нас весь персонал обеспечен дезсредствами, масками, перчатками. Надеюсь, не потеряем ни одного сотрудника.

**– У меня на проходной померили температуру…**

– Конечно, у нас каждому, кто входит на территорию предприятия, обязательно измеряют температуру. Даже если приезжаешь на автомобилях, ты должен выйти, обработать руки дезсредством и измерить температуру. Для нашего персонала разработана четкая инструкция: с утра дома помыли руки, надели перчатки, маску и поехали на работу. Сюда приехали, маску и перчатки выбросили, на территории КПП обработали руки дезсредством, померили температуру, прошли визуальный осмотр, если здоров – иди на работу. Если есть малейшие подозрения на то, что присутствует насморк или что-то еще, – сразу домой и вызывать врача.

Когда наш сотрудник едет домой с работы, он действует так же: обрабатывает руки на КПП, надевает перчатки, маску.

На предприятии сегодня нет ни одного сотрудника, который имеет признаки респираторных инфекций.

Что касается наших удаленных сотрудников, так называемый «полевой персонал», специалистов по продажам, агентов, которые выставляют продукцию в торговых объектах, то у них за день может быть порядка 20–30 контактов с различными людьми, и они тоже обеспечены перчатками, дезсредством, масками. Вот такими превентивными мерами мы пытаемся максимально оградить наших сотрудников от этого вируса. Дальше будем смотреть и реагировать по ситуации.

**– Сейчас многие работают на удалёнке…**

– Если возникнет такая необходимость, мы тоже готовы в течение одного дня перейти на удалёнку. Но пока не видим в этом смысла.

**– Если уйдете на удалёнку, завод остановится?**

– Нет, конечно! Продолжит работать. У нас выйдут на работу дежурные смены, сотрудники будут производить продукт, осуществлять налив и отгружать продукцию в торговые сети нашей страны…

Мы – предприятие пищевой промышленности, и люди хотят есть и пить всегда, в любых условиях, на карантине и без карантина. Поэтому наша задача сделать так, чтобы предприятие работало.

## ОТ ПЕРВОГО ЛИЦА

**Сергей ПОТЕЙКОВИЧ, главный врач Копыльской центральной районной больницы:**

– Спасибо, мы очень рады помощи, вода – она всегда кстати. Все, что нам предлагают, мы с благодарностью принимаем. И спасибо, что есть неравнодушные люди…

**Павел ХАТЬКО, главный врач Борисовской больницы №2:**

– Мы положительно относимся к любой помощи, которую нам сегодня оказывают. И очень рады воде, которую люди должны употреблять в большом количестве, особенно сейчас. Едой стараемся обеспечивать на своем уровне, если какая-то помощь предоставляется, то она тоже довольно востребована в любом случае. В остальном – тесно работаем с управлениями здравоохранения, на данный момент защитных средств нам хватает.

**Павел ГОНЧАР, главный врач Воложинской центральной больницы:**

– За воду спасибо. Что еще нам нужно? Питанием доктора обеспечены, но оно стандартное, были бы рады, наверное, фруктам. А еще – любой «канцелярке», потому что маркеры, ручки – это все остается в грязной зоне, откуда выносить ничего нельзя. А некоторую документацию нужно в чистой зоне заполнять. Все остальное у нас есть: средствами индивидуальной защиты мы обеспечены. У меня медработник не войдет к больным без средств защиты. Многоразовые средства индивидуальной защиты обрабатываются, обеззараживаются и используются повторно, согласно паспорту изделий. Одноразовое сразу все идет в утиль. С масками и респираторами проблем нет. У нас есть запас, если его необходимо пополнить – работаем с управлением здравоохранения, они пополняют.

**Оксана РУМЯНЦЕВА, заместитель главного врача по организационно-методической работе Минской областной клинической больницы:**

– Помощь с водой, конечно, очень кстати. Спасибо большое бизнесменам и всем тем, кто помогает медикам в эти непростые времена!

**Марина КОКТЫШ.**

ДУХОЎНЫ СВЕТ

# Арцыбіскуп Тадэвуш КАНДРУСЕВІЧ: «Уваскрасенне Хрыста – задатак будучай славы»

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

**5.** Дарагія браты і сёстры!

Сардэчна віншую ўсіх вас са святам Уваскрасення Хрыста!

Віншую католікаў і тых хрысціян, якія сёння адзначаюць гэтае свята святаў!

Віншую праваслаўных, якія будуць адзначаць Пасху Хрыстову праз тыдзень. Жадаю ім плённага перажывання апошняга этапу Вялікага посту – Вялікага тыдня – і духоўнай падрыхтоўкі да Вялікадня!

Віншую ўсіх людзей добрай волі!

Няхай моц уваскрослага Хрыста дасягне ўсіх нас і дапаможа стаць Ягонымі сведкамі. Няхай стане ўдзелам самотных, пакінутых і тых, хто трапіў у розныя залежнасці, каб убачылі Хрыста, які іх любіць і вядзе да нябеснага Айца.

*Няхай уваскрослы Езус адорыць нас надзеяй перад выклікам эпідэміі каранавіруса.*

Яна паказвае, што мікраскапічны, нябачны вірус здольны перавярнуць сучасны, моцна адукаваны, высокатэхналагічны і ўзброены да зубоў свет з ног на галаву. Чалавек, які ўяўляе сябе «богам», яшчэ раз убачыў, што такім не з'яўляецца. Таму наша адзіная надзея ў Божай міласэрнасці, якая найбольш дасканала праявілася ў пасхальнай таямніцы.

Няхай Езус – Пераможца злога духу, граху і смерці – падтрымлівае намаганні лекараў і службаў грамадскага парадку, каб мы маглі выйсці пераможцамі з гэтай складанай сітуацыі.

Няхай Ён знішчыць непаразуменні, якія існуюць у нашым грамадстве, адорыць пасхальнай радасцю, любоўю, супакоем і патрэбнымі ласкамі, каб мы маглі будаваць нашу будучыню на падмурку евангельскіх каштоўнасцяў!

Дабраслаўлёных і поўных надзеі велікодных святаў усім вам!

Гэтыя свае віншаванні ўмацоўваю дабраслаўленнем у імя Айца, і Сына, і Духу Святога. Амэн.

З НАГОДЫ

# Хрыстус уваскрос!

*Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч выдаў Дэкрэт аб дабраслаўленні велікодных страў у хатніх умовах.*

З-за выкліканых пандэміяй каранавіруса складанасцяў не ўсе вернікі змогуць асабіста ўдзельнічаць у пасхальных набажэнствах, а таксама дабраславіць стравы на велікодны стол у святыні.

У сувязі з гэтым арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч зацвердзіў парадак і тэкст малітвы дабраслаўлення велікодных страў у хатніх умовах. Гэтую выключную магчымасць ва ўмовах надзвычайнай сітуацыі архіпастыр даў вернікам на Вялікдзень 2020 года.

*«Калі не атрымалася дабраславіць велікодныя стравы ў святыні, сёлета гэта можа зрабіць дома бацька сям'і або старэйшая асоба.*

*Пасля таго як на традыцыйнае святочнае снеданне збярэцца ўся сям'я, на стале запальваецца свечка і гучыць традыцыйнае велікоднае прывітанне «Хрыстус уваскрос! Алелуя!».*

*Потым хтосьці з прысутных чытае ўрывак з Евангелля паводле Мацвея, у якім апавядаецца пра тое, як раніцай жанчыны прыйшлі да магілы і першымі даведаліся ад анёла, што Хрыстус уваскрос.*

*Затым усе разам моляцца: Ойча наш… Вітай, Марыя… Хвала Айцу…*

*Супольная малітва завяршаецца знакам крыжа».*

НА СУВЯЗІ – ЗЕМЛЯКІ

# «Людзі ладзяць канцэрцікі перад вокнамі дамоў састарэлых»

*Беларускі піяніст Віталь Стахіевіч расказаў «Народнай Волі» пра жыццё на амстэрдамскім каранціне.*

*У Нідэрландах Віталь Стахіевіч жыве з 2004 года. Музыкант працуе ў Амстэрдамскай кансерваторыі, ездзіць па свеце з канцэртамі. Днямі, дарэчы, мусіў выступіць у Брэсце, але праз апошнія падзеі для беларускіх слухачоў ён сыграе толькі 1 ліпеня: праграму бетховенскай музыкі перанеслі. Зрэшты, каранавірус крута памяняў не толькі гастрольныя планы – жыццё ўвогуле. З 13 сакавіка музыкант са сваёй жонкай і маленькімі дзеткамі знаходзяцца ў самаізаляцыі.*

## Усё адбылося маланкава

– Памятаю, як яшчэ ў студзені сачылі за навінамі, перажывалі за уханьцаў і за тых знаёмых і калег, хто працуе ў Кітаі, і не верылі, што гэта магчыма, – *у голасе піяніста чуецца хваляванне.* – Я тады акурат вярнуўся з гастрольнай вандроўкі па Японіі, таму адчуваў гэта як нешта блізкае і трохі застрашлівае. Пазней былі першыя весткі з поўначы Італіі, першыя артыкулы ў тутэйшых газетах, у якіх гаварылася, што прыход віруса ў Нідэрланды – толькі пытанне часу і трэба рыхтавацца.

**– Урад таксама гэта разумеў?**

– Магчыма, Нідэрланды адрэагавалі трохі запозна ў параўнанні з суседнімі краінамі, але ўсё адбылося маланкава. 12 сакавіка стала вядома пра дзясяткі захворванняў і асобныя смяротныя выпадкі, а вечарам таго ж дня адбылася прэс-канферэнцыя міністра-прэзідэнта (тут гэта кіраўнік Кабміна, першая асоба ў дзяржаве) сумесна з міністрам аховы здароўя. Наступнай раніцай ужо не працавалі ўстановы, музеі і ВНУ. Праўда, з закрыццём школ цягнулі да апошняга – яшчэ тры дні.

**– А потым жыццё незваротна змянілася...**

– Ну вось уявіце, што за пяць дзён да каранціну я адыграў добры канцэрт перад сотняў слухачоў. Было вельмі многа ўрокаў, асабліва 12 сакавіка, – працавалі ўвесь дзень. А з 13-га – ужо поўная самаізаляцыя...

**– Кансерваторыя захавала вам заробак?**

– Натуральна. Кансерваторыя цалкам зачынілася ў першы ж дзень пасля вечаровага выступлення ўрада, гэта была пятніца 13 сакавіка. Тады здавалася, што паўза будзе на два-тры тыдні, але цяпер гэты перыяд падоўжаны аж да мая. Мяркуючы па ўсім, фізічна заняткі ў бягучым навучальным годзе ўжо не адновяцца. Тут навучальны год доўжыцца амаль да сярэдзіны ліпеня. Аднак многае робіцца анлайн, у тым ліку ўступныя і завяршальныя іспыты. У інтэрнэце ідуць тэарэтычныя і індывідуальныя заняткі. Я таксама рэгулярна займаюся са студэнтамі па відэасувязі праз WhatsApp або Zoom. Зразумела, гэта далёка не тое ж самае, што сапраўдныя ўрокі, але як стымул і музычнае камунікаванне – вельмі карысна. Яшчэ часта раблю запіс фартэпіянных партый ансамблевых твораў, каб інструменталісты маглі дома іграць «разам» са мною.



**– А студэнты? Раз'ехаліся па сваіх краінах?**

– У першыя ж дні былі разасланы электронныя паведамленні ўсім настаўнікам і студэнтам, каб яны заставаліся ў Амстэрдаме або як найхутчэй вярнуліся сюды. Для мяне гэта таксама быў адзін з фактараў, каб вырашыць не ляцець тады ў Мінск. Таму большасць студэнтаў цяпер у Нідэрландах, і толькі адзінкі вырашылі з'ехаць. Я, напрыклад, ведаю, што некаторыя з маіх вучняў цяпер у сябе дома ў Польшчы, Ірландыі, Партугаліі і Славеніі. Аднак многія кажуць, што рашэнне пакінуць усіх тут было не надта разумным, бо зараз усім тым, хто застаўся ў Амстэрдаме, практычна ўжо немагчыма паляцець дадому, амаль усе рэйсы адменены. А перыяд каранціну, падобна, будзе працяглы.

## Інтэлігентны каранцін

**– Што такое ізаляцыя па-нідэрландску?**

– Тут да апошняга часу прытрымліваюцца так званага «інтэлігентнага» каранціну, таму ёсць рэкамендацыі не збірацца больш як утраіх, захоўваць дыстанцыю паўтара метра, нікога не наведваць, асабліва людзей сталага ўзросту. Але жорсткіх абмежаванняў няма: можна ездзіць на ровары, хадзіць па вуліцах, у крамы. Аднак так ці інакш, а галоўная рэкамендацыя – як мага больш заставацца дома. Паліцыя патрулюе вуліцы вельмі актыўна, і за нейкае злоснае парушэнне можна схапіць вялікі штраф (здаецца, 400 еўра, а то і болей). Я бачу бясконцыя відэа з пустымі вуліцамі, аэрапортам без пасажыраў і гэтак далей. Скажам, мы на вуліцу выходзім толькі раз на дзень ці праз дзень – літаральна на паўгадзіны, каб праветрыцца.

**– Які агульны настрой адчуваецца ў паветры?**

– Мне здаецца, што ў цэлым – вельмі насцярожаны і прыціхлы. Але людзі стараюцца нават у такой сітуацыі заставацца ў гуморы, падтрымліваць адзін аднаго, ладзіць спантанныя канцэрцікі перад вокнамі дамоў састарэлых і гэтак далей.

**– Тэст на каранавірус, дарэчы, можа здаць кожны?**

– Наадварот, мала каго тэсціруюць. Таму штодзённыя звесткі пра колькасць заражэнняў можна смела памнажаць у разы. У поле зроку трапляюць сур'ёзныя і, вядома ж, смяротныя выпадкі.

**– На момант, калі гэты нумар будзе здавацца ў друк, ахвяр ужо 2248...**

– Але апошнія тры дні крывая смяротнасці ідзе ўніз. Відаць, меры пачынаюць даваць плён. Улады мяркуюць, што пік мы прайшлі 31 сакавіка.

## Гаджэты і піяніна па раскладзе

**– Вы ж, напэўна, таксама не раз чулі меркаванне, што пасля пандэміі свет ніколі не будзе ранейшым. У вас пераасэнсаванне ўжо адбылося?**

– Міністр-прэзідэнт Марк Рутэ ў кожным сваім выступленні не стамляецца паўтараць, што гэта цяпер самы цяжкі і экстрэмальны перыяд у жыцці краіны за ўвесь мірны час пасля Другой сусветнай вайне. Адчуваю: адбываецца нешта такое неверагодна глабальнае, што закране жыццё кожнага і будзе звязана з вялікай трывогай і цяжкасцямі. Увогуле я чалавек вельмі дзейсны, засёды на нагах, нават у вольны дзень не прывык спакойна адпачываць. А тут раптам такая драматычная змена жыцця і звычак! Бачу па тэлевізары паведамленні пра псіхозы або хатнія сваркі, колькасць якіх павялічваецца. Нам спачатку таксама было трохі нязвыкла, галоўнае – нечакана, вось так дзень за днём сядзець у кватэры. Ніколі ж такога не было! З іншага боку, гэта ўнікальная магчымасць быць працяглы час разам, менавіта нашай сям'ёй. Нам гэта нават падабаецца, калі б толькі не напружаная сітуацыя навокал і не адсутнасць магчымасці наведваць сяброў і падарожнічаць. За гэты месяц я значна мацней адчуў вартасць такіх паняццяў, як каханне, любоў, свабода, мастацтва...

**– Як праходзіць ваш дзень?**

– Часам трэба зірнуць у каляндар, каб спраўдзіць, нядзеля гэта ці, напрыклад, серада: дні падобныя адзін да аднаго. Дзеці робяць шмат школьных заданняў на камп'ютары, а таксама рэгулярна выходзяць на відэасувязь з настаўніцамі. У гэтым сэнсе навучальны год працягваецца, і дзень атрымліваецца даволі насычаны. У маёй каханай Аксаны даволі многа вучняў па фартэпіяна, гэта таксама штодзённыя відэаўрокі. Таму гаджэты і піяніна даводзіцца размяркоўваць амаль па раскладзе. Акрамя таго, з'явілася трошкі часу, каб пачытаць кнігу, паглядзець цікавую перадачу або фільм, пагартаць уласную калекцыю мастацкіх альбомаў, паслухаць кампакт-дыск ці анлайн-канцэрт. Нарэшце, вывучыць новыя творы ў рэпертуар, пра якія даўно марыў.

**– У вас адмянілася нямала канцэртаў...**

– Суцяшаю сябе найперш тым, што гэта так і для ўсіх. А ёсць жа праекты сапраўды вельмі значныя, якія давялося адмяніць. Толькі адзін прыклад: цудоўны, грандыёзны фестываль Малера з удзелам венскага, берлінскага і нью-ёркскага аркестраў, які планаваўся ў Амстэрдаме ў маі! Такі маштаб – вось гэта сапраўды жах!

**– У Беларусі ў вас бацькі, сябры. Вы, канешне, у курсе нашых падзей?**

– Неверагодна перажываю і ўвесь час на сувязі з роднымі і сябрамі. Заўсёды думаў: шкада, што пра Беларусь так мала ведаюць у свеце, так мала інфармацыі, паведамленняў! Цяпер жа іх стала значна больш, але ад гэтага толькі сумна.

**Аліна СТРАШКЕВІЧ.**

КАДРЫ

## Андрэй Мацельскі – дырэктар Нацыянальнага цэнтра прававой інфармацыі



Учора адпаведны указ падпісаў Аляксандр Лукашэнка.

Раней гэту пасаду займаў Яўген Каваленка. Ён вызвалены ў сувязі з пераходам на іншую работу.

РЭГІЁН

## Абаронныя экраны для медыкаў ад тэхнапарка

У тэхнапарку Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта з выкарыстаннем 3D-прынтараў пачалі выпускаць абаронныя пластыкавыя экраны для медыкаў.

Попыт на гэту прадукцыю ў Гродзенскай вобласці зараз складае больш за тысячу штук. На вытворчасці абаронных экранаў задзейнічаны чатыры 3D-прынтары тэхнапарка. Сам экран вырабляецца па тэхналогіі лазернай рэзкі. На вытворчасці задзейнічаны і студэнты.

## Адкрываюць дзверы нагамі...

У адным з дамоў Гродна ў мікрараёне “Альшанка” жыльцы ўстанавілі на ўваходных дзвярах у пад'езд ручкі… для ног. Такім чынам яны спрабуюць знізіць рызыку заражэння каранавірусам.

Канкрэтны аўтар ідэі невядомы. Старшыня таварыства ўласнікаў кажа, што прыдумалі ўсе разам. Ручка размешчана на ўваходных дзвярах, на якіх месціцца дамафон. Калі ідэя прыжывецца, то плануецца ўстанаўліваць падобныя ручкі і на іншых дзвярах.

Дарэчы, у кожным пад'ездзе гэтага дома побач з ліфтам на сцяне прымацаваны ёмістасці з антысептыкам. Прыбіральшчыца штодня праводзіць дадатковую вільготную прыборку з дэзінфікуючымі растворамі.

Жыльцы дома ўпэўнены, што ў іх дзеяннях няма нічога асаблівага, проста яны не чакаюць, калі нехта абароніць іх ад вірусаў, а робяць гэта самі.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

НЕЛЬГА ЗАБЫЦЬ...

# Разгон

## У ноч з 11 на 12 красавіка 1995 года дэпутатаў Вярхоўнага Савета 12-га склікання, якія адстойвалі дэмакратыю, амапаўцы гвалтоўна выкінулі з Авальнай залы

*11 красавіка 1995 года 19 дэпутатаў Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце прама ў Авальнай зале абвясцілі галадоўку пратэсту супраць ініцыяванага Аляксандрам Лукашэнкам рэферэндуму аб скасаванні бел-чырвона-белага сцяга і герба "Пагоня" як дзяржаўных сімвалаў, ліквідацыі статусу беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай, аб эканамічнай інтэграцыі з Расіяй і наданні прэзідэнту права распускаць парламент.*

*У ноч з 11 на 12 красавіка на падставе таго, што быццам паступіла паведамленне аб мініраванні будынка парламента, у залу пасяджэнняў быў уведзены АМАП і супрацоўнікі Службы бяспекі кіраўніка дзяржавы. Яны жорстка збілі пратэстуючых дэпутатаў і гвалтоўна выкінулі іх з будынка парламента.*

*Вінаватых у збіцці дэпутатаў праваахоўныя органы не назвалі і да гэтага часу. Генпракуратура ўзбудзіла крымінальную справу па заяве групы дэпутатаў аб збіцці іх супрацоўнікамі спецслужбаў, але справа была прыпынена. На наступны дзень пасля здарэння Аляксандр Лукашэнка абяцаў паказаць па тэлебачанні відэазапіс гэтага разгону: маўляў, не ўсё там было менавіта так, як расказваюць дэпутаты. Але мінула ўжо 20 гадоў, а грамадскасці гэты запіс так і не паказалі. Дарэчы, не бачыў відэастужкі нават следчы, які займаўся расследаваннем гэтага інцыдэнту.*

*"Пасля таго як у парламент увялі войскі, узброеныя сілы, ён перастаў быць парламентам, – не раз падкрэсліваў тагачасны дэпутат* ***Лявон Дзейка.*** *– Бо гэты орган у любой краіне абсалютна недатыкальны для любой іншай структуры. Наступствы гэтага незаконнага рэферэндуму мы бачым ужо на працягу амаль дваццаці гадоў. Ідзе татальнае знішчэнне беларускай мовы. Улада і тая, і цяперашняя, а па сутнасці адна і тая ж, у шэрагу пытанняў – грамадскіх, культурных, сацыяльных – пакідае пасля сябе проста папялішча».*

***Усё тое, што адбылося ў ноч з 11 да 12 красавіка ў Авальнай зале, даўно падрабязна апісана. "Народная Воля" пагартала ўспаміны дэпутатаў Вярхоўнага Савета 12-га склікання, якія бралі ўдзел у галадоўцы, а таксама задала некалькі пытанняў тагачаснаму кіраўніку Адміністрацыі прэзідэнта Леаніду Сініцыну. Нагадаем і пра пазіцыю Мечыслава Грыба, які тады быў старшынёй Вярхоўнага Савета.***



ЯК ГЭТА БЫЛО...

### *Мікалай КРЫЖАНОЎСКІ:*

## "Мяне, як бервяно, укінулі ў міліцэйскі ўазік з металічнай падлогай"

"...Па абранні Лукашэнкі прэзідэнтам краіны пачаўся наступ на беларушчыну, на галоўныя прыкметы беларускай дзяржаўнасці, перадусім на мову і дзяржаўныя сімвалы, – *узгадвае дэпутат, успаміны якога друкаваў часопіс Arche.* – Мы спрабавалі рабіць, што маглі, каб спыніць гэтую згубную палітыку, але бачылі, што нашы намаганні марныя.

Калі на сесіі Вярхоўнага Савета ў красавіку 1995 г. Лукашэнка ўнёс прапанову аб рэферэндуме, мы адразу ўбачылі ў ім спробу знішчыць асновы нашай дзяржаўнасці: мову, дзяржаўныя сімвалы краіны.

Пазьняк 11 красавіка з трыбуны ВС сказаў, што прэзідэнт навязвае нашаму грамадству антыканстытуцыйны рэферэндум, што мы вычарпалі ўсе магчымасці і ў нас няма іншага выйсця, апроч галадоўкі, і мы аб'яўляем яе тут, у гэты час, у гэтай зале. Ён пайшоў і сеў на прыступку каля трыбуны. Мы далучыліся да яго. Усё адбылося спантанна. Нікога не трэба было пераконваць у слушнасці такога кроку. Мы былі гатовы на ўсё, каб не дапусціць ганебнага рэферэндуму.

Зала ВС сустрэла нашу акцыю доўгім маўчаннем. Прысутныя дэпутаты не разумелі, як гэта іх калегі будуць галадаць проста ў зале пасяджэнняў. Яны спрабавалі працягваць працу, як быццам бы нічога не здарылася. Я не сумняваюся, што наш учынак уразіў прысутных дэпутатаў настолькі, што яны завалілі ўсе прапановы Лукашэнкі, нягледзячы на ўсе яго намаганні. У той дзень нам удалося сарваць прыняцце рашэння пра рэферэндум.

Мы бачылі, што пачалі сваю акцыю не марна, бо першы ж дзень даў свой плён. І тады Лукашэнка і яго хаўруснікі, якія ўсё адсочвалі, зразумелі, што, пакуль у сценах Вярхоўнага Савета будзе доўжыцца галадоўка, у іх нічога не атрымаецца. Таму і вырашылі любым шляхам выкінуць галадоўшчыкаў з парламента.

Пасля 18-й гадзіны да нас пачалі прыходзіць усякія парламенцёры менавіта з аховы прэзідэнта. Быў кіраўнік аховы са стрыжанымі хлопцамі ў скураных куртках. Яны спрабавалі нам нешта давесці, казалі, што зала замініраваная і яе трэба пакінуць.

Потым, гадзін у 12 ночы, заходзілі па-вайсковаму апранутыя сапёры шукаць міну. Яны недзе за паўгадзіны праверылі залу, але нічога не знайшлі. Потым іншыя пасланцы пераконвалі нас, што ўжо позна і залу трэба вызваліць і зачыніць. Мы адказалі, што мы не пабочныя асобы, а народныя дэпутаты, што мы праводзім галадоўку на працоўным месцы. Яны пагражалі вывесці нас гвалтам і нават спрабавалі цягнуць некаторых за рукаў. Мы адказвалі: не маеце права, не забывайце, што за гэта вы будзеце несці не проста дысцыплінарную, а крымінальную адказнасць. І так цягнулася гадзіны да 2-й ночы.

Хіліла ў сон, і каля 2-й гадзіны мы задрамалі, хто дзе ўладкаваўся: проста на падлозе ці ў крэслах. Дзяжурства мы не прызначалі. Раптам скрозь сон я пачуў крык Голубева: «Уставайце, уставайце!» Мы хуценька паўскоквалі са сваіх месцаў. Загарэлася святло, і я ўбачыў, што па ўсёй Авальнай зале і наверсе шчыльна адзін да аднаго стаяць узброеныя вайскоўцы. Відаць, яны хацелі пахапаць нас соннымі. Хтосьці з іх (здаецца, Каралёў) нас яшчэ раз папярэдзіў, каб мы пакінулі залу, бо інакш яны пусцяць у ход сілу. Мы паспелі ім адказаць: добраахвотна не сыдзем. Мы паселі ў крэслы на месцы прэзідыума і ўчапіліся за рукі.

У гэты момант на кожнага з нас накінулася па 3–4 «гарылы» ў чорных масках са шчылінамі для вачэй. Яны былі без зброі, але, відаць, добра натрэніраваныя. Падскочыўшы да мяне, двое адразу закруцілі мне рукі, а адзін пачаў біць па спіне ззаду. Мяне вырвалі з месца і павалаклі тварам уніз. Яны моцна скруцілі мне рукі і білі. Я паспеў убачыць валтузню вакол Пазьняка – яму ціснулі на вочы. Я чуў, як яны раўлі. З аднаго з іх І.Гермянчук, цяпер нябожчык, паспеў сарваць маску. Нападнік затуліў твар, кінуў ахвяру.

Відэакамеры я добра бачыў. Было іх дзве ці тры, а адна наверсе, здаецца, стацыянарная. Пачалі яны здымаць гадзіны з 18-й, як толькі закончылася пасяджэнне ВС, і здымалі беспярапынна ўвесь вечар да той пары, пакуль мы не выключылі святло і не палеглі адпачываць.

Нападнікі выводзілі мяне ў дзверы направа, у вузкі двор. Я заўважыў, што ўздоўж шчыльна стаялі ўзброеныя міліцыянты. Я кажу ім: «Хлопцы, чаму вы моўчкі глядзіце?» Яны не рэагавалі. Затым мяне, як бервяно, укінулі ў міліцэйскі ўазік з металічнай падлогай. Я не разбіў галаву толькі таму, што паспеў прыкрыць яе рукамі. Доўга нас па Мінску не вазілі – выкінулі недзе ў раёне вул. Казлова. Праз некалькі гадзін мы сабраліся ў гасцініцы «Кастрычніцкая». Некалькі чалавек пайшлі ў пракуратуру. Мы напісалі калектыўную заяву, на падставе якой была распачата крымінальная справа. Следчы **Язэп Бролішс** асабіста дапытаў кожнага з нас, размаўляў падрабязна і доўга, затым накіраваў на медыцынскую экспертызу. У мяне да таго часу апухлі абедзве лапаткі – яны балелі яшчэ тыдні два. У Пазьняка твар быў у сіняках. У А.Шута па дыяганалі на спіне – след дубінкі. У А.Трусава – сіняк на нагах.

Назаўтра нас не пускалі на пасяджэнне Вярхоўнага Савета міліцыянты, хоць я паказваў ім дэпутацкае пасведчанне. Не пускалі нават **Васіля Шаладонава** – відаць, памыліліся. Памятаю, што І.Гермянчук, тады рэдактар «Свабоды», змясціў у газеце фота, як В.Шаладонава не пускалі ў будынак ВС услед за мной. Пад здымкам подпіс: «А гэтага за што?» Праўда, хвілін праз 10 ахоўнікі атрымалі нейкую каманду і прапусцілі нас. Мы прыйшлі ў залу са спазненнем, няголеныя, змораныя і збітыя. Дэпутат Шут паказваў проста на пасяджэнні ВС сваю спіну з пісягамі ад пабояў. А з залы гучала: «Мала далі!»

Жаданне працягваць галадоўку ўжо не было: калі нас выкінулі з залы ВС, дык і зноў выкінуць. Аднак мы разлічвалі на грамадскі рэзананс, на тое, што крымінальную справу давядуць да канца. Лукашэнка потым выступаў: маўляў, я вам пакажу, як яны там «галадалі» і чым займаліся. А няхай бы паказаў. Я не сумняваюся, што адпаведныя відэазапісы засталіся. Дарэчы, хтосьці з нашых дэпутатаў бачыў у двары, калі мы клаліся спаць у зале ВС, прэзідэнцкі «мерседэс».

Як толькі Лукашэнка стаў у 1994 г. прэзідэнтам, ён адразу павёў наступленне на Вярхоўны Савет, каб умацаваць асабістую ўладу. Ён не хацеў дзяліцца ні з кім сваімі паўнамоцтвамі. Ён разумеў, што самастойны парламент створыць такія законы, якія абмяжоўваюць уладу прэзідэнта. Са збіцця дэпутатаў у Беларусі пачала замацоўвацца дыктатура А.Лукашэнкі. Сёння відавочна, што ў нашай краіне не дзейнічае прынцып падзелу ўлады, бо парламент пазбаўлены рэальных паўнамоцтваў, няма незалежных судоў..."

### *Валянцін ГОЛУБЕЎ:*

## "Яны нас проста хапалі, білі і прымусам выцягвалі з залы"

"...Было трывожна. Я прыслухаўся і тут у нейкі момант проста фізічна адчуў, як закалыхалася паветра – гэтак бывае, калі недзе побач у памяшканні ідзе вялікая маса людзей. Падобнае адчуванне ведае кожны, хто служыў у войску. А потым я пачуў гук удару аб дула аўтамата АКМ ці карабіна: «бзынь». Як і шмат хто з вайскоўцаў, гэты гук я не зблытаю ні з якім іншым. Зрабілася страшнавата. Я падняўся і рушыў да цэнтральных дзвярэй залы. Як толькі я ўзяўся за ручку, звонку мне нібы дапамаглі. Дзверы расчыніліся, і ў ярка асветленым фае я ўбачыў мноства вайскоўцаў: можа, некалькі соцень. Адразу кінуліся ў вочы іх пластмасавыя маскі ці шлемы, нібы ў касманаўтаў. Яны стаялі гурткамі і размаўлялі. Некалькі чалавек былі з ранцамі і ў супрацьгазавых масках. У гэты момант той салдат, які дапамог мне адчыняць дзверы, ткнуў у мяне ручным кулямётам. Перапужаны, я крыкнуў: «Кулямётчыкі!» – і адскочыў ад дзвярэй. Тады ззаду за мной у зале загарэліся ўсе лямпы, і я ўбачыў на балконе трох кінаапаратараў. Яны стаялі наводдаль адзін ад аднога і вялі панарамныя здымкі залы зверху з трох розных пазіцый: з левага, правага боку балкона і па яго цэнтры.

Алег Трусаў падняўся і пайшоў праверыць, ці праўду я сказаў. Ён паглядзеў у дзвярную шчыліну, вярнуўся і сказаў: «Праўда – там кулямётчыкі». Усе галадоўшчыкі ўскочылі і пачалі апранацца. Я адразу патэлефанаваў польскім журналістам. Тут у залу зайшоў Цесавец і прапанаваў усім яе пакінуць. Мы адмовіліся і селі на крэслы прэзідыума. Праз некалькі секунд расхінуліся ўсе дзверы, і ў залу з крыкамі ўварваліся людзі ў чорных трыко і масках. За імі па перыметры залы выстраіліся аўтаматчыкі, потым спецназ. Яны нас проста хапалі, білі і прымусам выцягвалі з залы, а потым развозілі на машынах і выкідвалі ў начным горадзе ў розных месцах.

На наступны дзень апазіцыю ў ВС пускаць было забаронена. Уваход з правага крыла ўвогуле зачынілі. Мы зайшлі ў Дом урада з боку Савета міністраў, але і там нас не прапускалі. Больш за тое: паставілі металадэтэктар, як у аэрапорце, але мы, напружыўшыся, звалілі яго і прарваліся на сесію. Там ужо выступаў Лукашэнка. Памятаю, я ледзь не ганяў па зале М.Цесаўца, бо было за што – ужо не вытрымалі нервы. Супрацоўнікі аховы толькі бегалі і прасілі: «Не ў зале пасяджэнняў, Валянцін Фёдаравіч, толькі не ў зале пасяджэнняў». Памятаю, я выступаў, назваў арганізатара гэтых дзеянняў «фашыстам» (ішла наўпроставая трансляцыя), а ён паабяцаў, што пакажа стужку, як усё адбывалася. Схлусіў і збаяўся. Аляксандр Шут у цэнтры залы прадэманстраваў пабоі, а былы старшыня Вярхоўнага Савета і сённяшні *(на момант напісання ўспамінаў. –* ***Рэд.)*** сенатар М.Дзямянцей крыкнуў: «Мала далі!»

### *Сяргей НАВУМЧЫК:*

## "У фае Авальнай залы былі не толькі аўтаматы..."

"Раніцай 12 красавіка Беларусь прачнулася фактычна іншай краінай. Вярхоўны Савет быў ачэплены ўнутранымі войскамі (не пускалі нават генпракурора Шаладонава!), – *распавядаў пра падзеі той ночы ў эфіры Радыё Свабода тагачасны дэпутат* ***Сяргей Навумчык****.* – Сітуацыя прынцыпова змянілася – фактычна адбыўся сілавы пераварот. Працягваць галадоўку – парламенцкую, грамадзянскую акцыю супраць сілавых дзеянняў – было бессэнсоўна. Бо ў ноч з 11 на 12 красавіка ў фае Авальнай залы былі не толькі аўтаматы...

Між іншым, часам я чуў: "Вам трэба было галадаць да канца". Калі я прашу ўдакладніць, да якога менавіта, людзі замаўкаюць.

Як нам пазней стала вядома, сярод варыянтаў аперацыі супраць нас у ноч з 11 на 12 красавіка разглядаўся і такі: пусціць усыпляльны газ (таму спецназаўцы і былі ў рэспіратарах), накідаць побач з намі бутэлек з-пад гарэлкі ды рознага смецця, зняць усё гэта на відэа – а на наступны дзень паказаць па БТ.

Мог быць і іншы варыянт, жахлівы..."

АФІЦЫЙНА

## "Неаднаразовыя запыты пракуратуры пакінуты без рэагавання..."

"...У 20 гадзін 09 хвілін 11 красавіка ў дзяжурную часць Упраўлення ўнутраных спраў гарвыканкама паступіў ананімны тэлефонны званок аб тым, што Дом урада замініраваны і магчымы выбух, – *гаворыцца ў пастанове аб прыпыненні папярэдняга следства па крымінальнай справе аб збіцці дэпутатаў, якую склаў следчы* ***Язэп Бролішс.*** – Абследаваннем першага і другога павярхаў Дома ўрада, у тым ліку і залы пасяджэнняў, зробленым сапёрамі, выбуховых прыстасаванняў не выяўлена, пра што а палове першай гадзіны 12 красавіка складзены акт. Разам з тым, са спасылкай на паведамленне аб мініраванні і магчымасці выбуху, у 2 гадзіны 50 хвілін дэпутаты супраць іх волі гвалтам выведзены з залы і групамі па 2–5 чалавек вывезены ў розныя месцы горада. Пасля вывядзення дэпутатаў зроблены надгляд іх асабістых рэчаў, якія засталіся ў зале пасяджэнняў.

Дэпутаты паказалі, што ў іх выдаленні з Дома ўрада ўдзельнічала значная колькасць служачых міліцыі, войска і неапазнаных фарміраванняў, якія дзейнічалі беспрычынна груба, наносілі ім удары кулакамі, нагамі і гумовымі палкамі.

Паводле заключэння судова-медыцынскай экспертызы, сем дэпутатаў, якія прайшлі агляд, мелі лёгкія цялесныя пашкоджанні, якія не выклікалі разладжвання здароўя, у выглядзе шматлікіх кровападцёкаў, прычыненне якіх магчыма пры абставінах, указаных пацярпелымі. Аналагічныя цялесныя пашкоджанні мелі тры дэпутаты, якія не звярнуліся ў бюро экспертызы.

Устаноўлена, што ў Доме ўрада былі ваеннаслужачыя ўнутраных войскаў першай роты вайсковай часці 3214 у колькасці 37 чалавек, першай роты вайсковай часці 5448 у колькасці 43 чалавек, атрад міліцыі асобага прызначэння МУС у складзе 86 чалавек, 24 службоўцы Галоўнага ўпраўлення аховы МУС. Гэтыя ваеннаслужачыя і супрацоўнікі міліцыі дапытаны, паказалі, што гвалту адносна дэпутатаў не ўжывалі.

Апроч вышэйназваных у Доме ўрада былі і здзяйснялі актыўныя дзеянні ў адносінах да дэпутатаў падраздзяленні, ведамасная прыналежнасць і асабісты склад якіх следствам не выяўлены.

Наяўныя ў справе звесткі пра ўдзел у падзеях, што расследуюцца, ваенізаванага фарміравання органаў дзяржбяспекі па барацьбе з тэрарызмам кіраўніцтва КДБ РБ не пацвердзіла.

Умяшанне войска ў падзеях у Доме ўрада Міністэрства абароны адмаўляе.

Упраўленнем аховы пры прэзідэнце рэспублікі неаднаразовыя запыты пракуратуры пакінуты без рэагавання.

Касеты відэазапісу, выкананага ў зале пасяджэнняў Вярхоўнага Савета, Адміністрацыя прэзідэнта следству не перадае. Змест касет мае істотнае значэнне для вызначэння кола ўдзельнікаў падзей, што расследуюцца, вызначэння іх асобы, ступені ўдзелу і магчымай віны і такім чынам выяўлення ісціны па справе.

Сабраныя доказы сведчаць пра тое, што дзесяці народным дэпутатам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, на якіх распаўсюджваецца палажэнне арт.37 аб дэпутацкай недатыкальнасці закона «Аб статусе народнага дэпутата», дзеяннямі прадстаўнікоў улады прычынены цялесныя пашкоджанні. Аднак вызначыць канкрэтныя асобы і абставіны прычынення цялесных пашкоджанняў дасюль не выявілася магчымым.

Таксама не выявілася магчымым вызначыць асобу грамадзяніна, які перадаў ілжывае паведамленне пра мініраванне Дома ўрада і пра магчымасць выбуху".



ПАЙМЕННА

У галадоўцы ўдзельнічалі 19 дэпутатаў:

**Мікалай Аксаміт, Сяргей Антончык, Лявон Баршчэўскі, Юрась Беленькі, Ігар Гермянчук, Валянцін Голубеў, Уладзімір Заблоцкі, Барыс Гюнтэр, Лявон Дзейка, Лявонцій Зданевіч, Мікалай Крыжаноўскі, Мікола Маркевіч, Віталь Малашка, Сяргей Навумчык, Зянон Пазьняк, Сяргей Папкоў, Пётра Садоўскі, Алег Трусаў, Аляксандр Шут.**

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

### *Леонид СИНИЦЫН:*

## «Пришли люди в масках и забрали депутатов...»

*Экс-глава Администрации президента рассказал «Народной Воле» о судьбе видеозаписи, на которой запечатлено избиение депутатов в Овальном зале. В свое время Леонид Синицын и Александр Лукашенко обещали показать ее общественности, но до конкретных действий дело так и не дошло. А где сегодня хранится эта видеозапись?*

– Конечно, я помню об этом видео, *– говорит Леонид Синицын.* – Я запись посмотрел и передал ее Владимиру Заметалину – был у меня такой заместитель, вел идеологическую работу. И так она с концами куда-то и ушла... Но у меня точно этого видео нет.

**– На ваш взгляд, было там что-то сенсационное?**

– Конечно, смотрелось это: пришли люди в масках, забрали депутатов и вывели. Сенсации как таковой тут нет... Суматоха была на том видео...

**– Как думаете, можно сегодня найти эту видеозапись?**

– Не знаю... Спрошу у одного человека...

**– Ну не мог же ее Заметалин с собой на тот свет забрать!**

– Подумаю, как найти... Конечно, это очень интересный момент. Надо для истории собрать, конечно... Но точно не у меня эта запись.

**– А неплохо было бы вам иметь ее в архиве. Для мемуаров пригодилась бы...**

– Еще не тот возраст, чтобы мемуары писать!

**– Ну а чем еще в самоизоляции сейчас заниматься? Или вы на работу ходите?**

– Ну я же пенсионер, а вождь говорит: нечего пенсионерам сейчас по улицам таскаться. Вот, выполняю приказ! (*Смеется.*)

Занимаюсь самообразованием. Надо каждый день что-то новое для себя открывать. Вот этот коронавирус как бабахнул – все в одинаковом положении сейчас...

**– Мир после коронаруса изменится – об этом сейчас многие говорят.**

– Будут искать виноватого, дойдет до отставок. У нас тоже, думаю, кого-то найдут. Обычная практика!

**– А вы в этой ситуации за карантин выступаете или нет?**

– Воздерживаться от излишних контактов, конечно, надо. Но предприятия должны работать, предпринимая разумные меры защиты людей. Остановить все и уйти всей страной на карантин – это безумие, я считаю. Все развалится, а потом кто-то скупит за бесценок...

Президент прав: надо работать. И ждать, когда появится вакцина. Вот читал как раз сегодня, что в Австралии нашли какой-то препарат от этого вируса, который раньше от чесотки и глистов использовали. Но я не думаю, что вакцина скоро появится, время надо, чтобы ее изобрести, протестировать... Поэтому сейчас самое главное – не болеть! А старое... Ну что уже сейчас об этом вспоминать? Было и было! Но судьбой этой видеозаписи я, конечно, поинтересуюсь...

**Марина КОКТЫШ.**

**ОТ РЕДАКЦИИ**

Можно, конечно, представить реакцию на слова Л. Синицына тех бывших депутатов, объявивших голодовку, большинство из которых серьезно пострадали от того ночного разгона. Что значит *«люди в масках забрали депутатов и вывели»?*

Неужели господин Синицын не знает, что участники протестной акции обращались и в медицинские учреждения, и в правоохранительные органы, и все это задокументировано и хранится в архивах?

Почему ему все-таки не хватает мужества сказать о своей неблаговидной роли в замалчивании подробностей расследования того печального инцидента? Ведь он тогда занимал должность главы Администрации президента...

ПАЗІЦЫЯ

### *Мечыслаў ГРЫБ:*

## "Мы маглі пайсці на кулямёты, але што б гэта дало людзям?.."

*Дагэтуль існуе думка, што старшыня Вярхоўнага Савета 12-га склікання* ***Мечыслаў Грыб*** *пабаяўся даць годны адпор тым, хто скамандаваў выкінуць дэпутатаў з Авальнай залы. І калі б у красавіку 1995 года Грыб як кіраўнік парламента заняў больш прынцыповую пазіцыю, то, магчыма, не было б іншых ганебных фактаў у гісторыі Беларусі. Многае залежала ад таго, якую пазіцыю зойме Вярхоўны Савет на наступную раніцу пасля "крывавай ночы".*

– Ведаеце, лупцаваць можна слабейшага, а мацнейшага лупцаваць немагчыма, – *адказаў неяк "Народнай Волі" Мечыслаў Іванавіч*. – І на той момант мы не маглі супрацьстаяць прэзідэнту. Падтрымка яго ў грамадстве на той час была вялікая. І Канстытуцыя нам таксама не дазваляла гэтага рабіць. Аб'яўляць імпічмент падстаў не было, дый парламент быў фактычна расколаты на некалькі лагераў: частка дэпутатаў была запалохана, частка – падкуплена абяцаннямі...

Я імкнуўся займаць дэмакратычную пазіцыю. Але мяне і з аднаго, і з другога боку ставілі ў тупік. І сёння я гэта разумею. Калі я прыйшоў на пасяджэнне Вярхоўнага Савета, то ўбачыў тое, што ўбачыў: трыбуну блакіравала група дэпутатаў з фракцыі БНФ. Яны не дазвалялі весці сесію і выступалі супраць рэферэндуму. Мяне проста паставілі перад фактам: ты прыйшоў на пасяджэнне, а мы бастуем і галадаем. Я таксама быў супраць таго рэферэндуму. І большасць дэпутатаў была супраць. Але ніхто не чакаў ад гэтых людзей такіх рашучых дзеянняў. Тым больш, паўтаруся, нас ніхто не папярэджваў. А потым мяне вінавацяць, што я не прыняў нейкіх мер. А якія меры я мог прыняць да прэзідэнта краіны?..

Тады ад Вярхоўнага Савета яшчэ сапраўды нешта залежала. І калі мы сустрэліся с цэлым шэрагам парушэнняў Канстытуцыі, то дзейнічалі законным шляхам: звярталіся ў Канстытуцыйны суд. І я на сённяшні дзень адзіны старшыня Вярхоўнага Савета, які ўзбудзіў 16 спраў у Канстытуцыйным судзе аб парушэнні прэзідэнтам краіны Канстытуцыі! Пасля мяне такога не было! Дык што я яшчэ павінен быў зрабіць?! Войскі падпарадкоўваліся не мне, МУС і КДБ таксама. Мы мелі сілу зрабіць заяву, выпусціць нейкую паперку, але не больш за тое.

Калі б мяне тады спыталі, то я сказаў бы, што асабіста я супраць галадоўкі. Калі ласка, бастуйце, выступайце на вуліцы, але не зрывайце працу Вярхоўнага Савета. Але, калі разганялі і выносілі гэтых людзей з Авальнай залы, я быў на іх баку. Дарэчы, зала, дзе праходзілі пасяджэнні Вярхоўнага Савета, знаходзілася ў распараджэнні Савета міністраў, мы яе проста арандавалі.

Магу распавесці яшчэ адзін эпізод: днём да мяне падышоў Зянон Пазьняк і паведаміў, што да яго дайшлі чуткі пра тое, што ноччу адбудзецца разгон галадоўшчыкаў. Я выклікаў да сябе кіраўніка Галоўнага ўпраўлення дзяржаўнай аховы пры прэзідэнце Міхаіла Цесаўца, і той запэўніў мяне, што нічога такога не будзе. На тым і разышліся.

На наступную раніцу я адразу склікаў пасяджэнне прэзідыума, сказаў, што зала, дзе мы засядалі, апаганена збіццём дэпутатаў і мы не можам там далей праводзіць сесіі. І прапанаваў перанесці пасяджэнні ў залу будынка Вярхоўнага Савета, якая, праўда, не была тэхнічна абсталявана належным чынам. Адны мяне падтрымалі, другія – не. На галасаванні мая прапанова не прайшла. І я вымушаны быў падпарадкавацца рашэнню большасці.

Я імкнуўся паводзіць сябе сумленна, вось і ўсё. Сёння я, канешне, настаяў бы, каб пасля збіцця дэпутатаў у тую залу больш – ні нагой. Але што б гэта змяніла?..

Мы маглі пайсці на кулямёты. Але што б гэта дало людзям?..

Народная Воля
http://www.nv-online.info
10 КРАСАВІКА 2020 г.

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСА



### Трэнажорная зала

– Восъ і адкрылася, – цётка сказала, –
Лепшая ў нас трэнажорная зала.
Сёмы зганю, як гаворыцца, пот.
– Што ж там за зала?
– То мой агарод…

### Лабавое шкло

На тым скрыжаванні панеслася смела,
Хаця і чырвонае зззяла святло.
У выніку добра тады зразумела,
Чаму лабавым называецца шкло…

### Жанчынам на заметку

Калі галіцца перастаў мужчына,
Хоць у яго тыдзёвая шчаціна,
Калі ён прападае на футболе
І кампліментаў не гаворыць болей,
Табе не дарыць, як калісьці, кветкі,
Не хоча кожны дзень
мяняць шкарпэткі,
Штаны на стуле скручаны ў сувой,
Дык не хвалюйся,
бо мужчына – твой!

### Што шукаць у шафе?

Раўнівы муж (традыцыя такая)
У шафе палюбоўніка шукае.
Разумны муж шукае рэчы там,
Якія жонцы не купіў ён сам…

### Рэлігійны раздрай

– Чаму ты развялася з мужам?
Ён быў прыгожым,
смелым, дужым…
– Амаль штодня ўзнікалі звады,
Бо рэлігійныя пагляды
Мы мелі розныя зусім.
– Скажы: а рознасць тая ў чым?
– Прабачыць муж адно не мог:
Лічыла я, што ён не бог.

### Самая шкодная ежа

Самая шкодная ежа – гарбата,
Бо да яе так і просяцца ў рот
Торт і ватрушка, дзе цукру багата,
Печыва і з каўбасой бутэрброд.

### Галоўнае – удзел

Дэвізам для спаборніцтва любога:
"Галоўнае – удзел, не перамога".
І гэтак жа з-за Гітлера праклятага
Казалі немцы ў маі сорак пятага…

### Песіміст і аптыміст

Два дзецюкі сарваліся з гары.
Відаць, яны сканаюць без пары.
І летучы, як з дрэва жоўты ліст,
"Я падаю!" – гарлае песіміст.
А ў аптыміста радасць увачу,
І ён крычыць узрушана:
– Лячу!

### Жаданне

Перш чым правалііца ў цяжкі сон,
Маладзіца выйшла на балкон,
І было ёй сумна, крыўдна, горка…
А на небе праляцела зорка –
Быццам на агромністым экране.
Загадала хуценька жаданне.
Толькі не з'явілася яно
Апасля
У мужа ўсё адно…

### Няўдалае спатканне

– Ну як, скажы, прайшло спатканне
ў вас?
– Пустое ўсё… Патрацілу марна час.
Спярша на дыскатэцы збілі ногі –
Мы з ёю танцавалі да знямогі.
Пазвала да сябе затым яна.
Мы па бакалу выпілі віна.
Раздзелася дзяўчына дагала
І ў ложак, не прыкрыўшыся, лягла.
Я зразумеў: яна адчула стому.
Таму і сам патупаў я дадому…

### Самакрытычны

– Разумны ты такі, таленавіты,
Што мне табою можна ганарыцца!
А ён амаль "паслаў" яе:
– Ідзі ты!
Звычайны я. Ды проста ты дурніца.

### «Сябар»

– Здароў! А мне ж знаёмы, Рыгор,
Казалі тры разы, што ты памёр.
– Пасля таго
Які ж ты сябар, Ваня?
Ні разу не прыйшоў на пахаванне…

### Дрэнны анекдот

На працы параўноўвае народ
(І есць, бадай, для параўнання глеба):
– Дырэктар – быццам дрэнны анекдот:
Не весела,
Але ўсміхацца трэба…

ЗВАНЫЙ ГОСТЬ

# Дарья ЮРКЕВИЧ: «Мы привыкли впадать в состояние жертвы»



Для участия в конкурсе на одном из лучших международных кинофестивалей документального кино Visions du Réel («Видение реального») отобран фильм белорусского режиссера **Дарьи ЮРКЕВИЧ** «Невядомы рай» (производство киностудии «Беларусьфильм»). Так что сейчас Дарья могла бы собираться в путешествие в швейцарский город Ньон. Но уехала в деревню под Минском – в Европе, как известно, строгий карантин, массовые мероприятия сейчас там не проводятся. Но фестиваль не отменили! Он пройдет в режиме онлайн. И конкретно белорусский фильм можно будет посмотреть 17 апреля, предварительно зарегистрировавшись на сайте фестиваля заранее (кстати, количество посещений ограничено, так что откладывать не стоит). Также есть большая вероятность, что фильм «Невядомы рай» покажут в скором времени в белорусском прокате.

Имя Дарьи Юркевич уже не раз звучало в культурном пространстве Беларуси в связи с победами на престижных международных кинофорумах, в том числе и на минском МКФ «Лістапад». В 2014 году режиссер была награждена дипломом национального конкурса за игровую короткометражку «Баба, Ваня и коза», а буквально через год фамилия Юркевич снова попала в наградной список за пронзительную документальную ленту «Пасха Христова». Думаю, новый фильм режиссера «Невядомы рай» о жизни трех сестер-подростков практически рядом с Чернобыльской зоной отчуждения тоже соберет хороший урожай призов.

**– Если вспомнить, в Беларуси документальное кино всегда славилось хорошими фамилиями: Дашук, Аслюк, Адамович… Это помогает?**

– Знаете, это немного странно – повторять и повторять одни и те же фамилии. Когда-то – да, фильмы Виктора Аслюка, Галины Адамович (особенно ее работа «Боже мой») произвели на меня неизгладимое впечатление. Но с тех пор прошло немало времени, давно выросло новое поколение, мы выучились, много чего видели, чтобы наконец не опираться на чужие плечи, а крепко стоять на собственных ногах.

**– Хороший ответ. Фильм «Невядомы рай», который сейчас будет участвовать в международном конкурсе в Швейцарии, вы снимали около Чернобыльской зоны. И – почему же тогда это рай? Зараженная, брошенная в основном людьми земля…**

– Есть там особое состояние, которое трудно передать, но когда въезжаешь в зону, то чувствуется оно очень остро. Вся группа говорила об этом: попадаешь в зону – уезжать не хочется. Фильм мы снимали в Брагине, где уровень радиации до сих пор в 2,5 раза превышает норму.

**– А люди? Им что-то передается от окружающей природы? У них рай, потому что больше первобытной гармонии?**

– Не стану врать, я не знаю. Я лишь попробовала посмотреть на ситуацию глазами людей, которые там живут. И поняла вот что: местные люди ситуацию зоны приняли. Мои бабушка и дедушка, например, были эвакуированы из зоны и быстро умерли. Так что я в какой-то степени поехала в зону, чтобы во всем разобраться. Но вопрос, становятся ли люди в зоне лучше, гармоничнее, для меня остался без ответа. Потому что – а судьи кто? Каждый судит, исходя из собственного состояния души. Я в фильме «Невядомы рай» не судья, я, скорее, лишь констатирую позицию местных жителей: она – в принятии неизбежности судьбы. И как следующий неприемлемый этап – в отсутствии борьбы. Люди приспособились.

**– И все-таки рай?**

– Знаете, мы как-то проезжали деревню Волоховщина – люди оттуда все выселены, вокруг все заросшее, заматеревшее. И вот именно там я отчетливо ощутили это состояние зоны – полного обнуления: когда исчезает много человеческих вещей, и ты входишь в состояние нуля. Даже на уровне идей, в которых ты рос, воспитывался с детства. Их там нет, там они тоже обнуляются!

**– И что же остается людям?**

– Сложно передать словами, в фильме я старалась это выразить при помощи картинки и звуков. Но, знаете, оно не страшное – это состояние апокалипсиса. Когда ты понял, что уже все потеряно, это даже в чем-то прекрасно. Потому что – свобода! Обнуление время от времени необходимо человечеству, которое создало избыточный мир. И зона, возможно, именно для того и дана, чтобы мы это наконец прочувствовали и приняли меры.

**– А сегодняшнее мировое состояние карантина похоже на второй Чернобыль?**

– Конечно. Опять много загадок: кто выживет? Я думаю, что выживут не сильнейшие, вернее, не закостенелые, а люди мягкие, с более гибкой психикой.

**– Ваш фильм рассказывает о трех подростках из одной семьи. Интересно, как вам удалось расположить их к себе в таком сложном возрасте? Войти в семью прямо, что называется, до обеденного стола…**

– Повезло… Потому что полешуки в основном народ закрытый, это очень сложный регион. В первую семью не пробились, пришлось искать вторую. Съемочный период длился два года. Но для документального кино это немного.

**– Ваш следующий фильм «Дожить до премьеры», тизер которого уже выложен в интернет, – игровой. Так вы режиссер документального или игрового кино? Вы не хотите определиться с приоритетами в жанре?**

– Совершенно не хочу. Даже больше скажу: параллельно я работаю и с экспериментальными жанрами. И документалистику не брошу, после нее мне стало понятнее, как делать игровое кино, чтобы добиваться высокого градуса правдивости.

**– Да, тизер «Дожить до премьеры» очень эффектный, напряженный. А кто продюсер?**

– Валерий Дмитроченко («Демарш фильм»). Также режиссер Даша Жук помогает в качестве креативного продюсера.

**– То есть не «Беларусьфильм»?!**

– С киностудией я пока больше «нет», чем «да». У меня было несколько проектов с «Беларусьфильмом», в том числе фильм-притча по Владимиру Короткевичу «Вужыная каралева». Я очень люблю этот проект, изучала материал к нему чуть ли не десять лет. Его почти запустили, но в самый последний момент Министерство культуры передумало. И отказало.

**– Это, конечно, удар…**

– Удар. Но на три минуты. Потому что я уверена, что если чтото не случается, то это к лучшему. У меня, думаю я теперь, не хватило бы сил, чтобы вытащить сложный игровой фильм с нашей киностудией, которая находится далеко не в лучшем состоянии. Даже если б я легла на проекте костьми... На этапе подготовки я встречалась и с первым заместителем министра Ириной Дригой, и с другими чиновниками, мне все говорили: «Вотвот…» И – сорвалось. Что ж, значит, верный знак: нельзя этот фильм там запускать сейчас.

**– Этот знак над «Беларусьфильмом» становится фирменным, вы не находите?**

– Я не представляю, как можно эту киностудию реанимировать, развить. Вижу, что генеральный директор Владимир Карачевский хочет это сделать, он все прекрасно понимает, но как переформатировать ее в реальности, чтобы все заработало? Словом, я пережила отказ, да мне и не свойственно сильно отчаиваться. Я не концентрируюсь на негативе, тем более что в разработке у меня находится не один проект, это нормальная ситуация для любого режиссера.

**– Я знаю, что после окончания нашей Академии искусств вы уехали во Францию, поступили в школу-студию современного искусства Ле Френуа. Как вы нашли эту школу, кто помог поступить?**

– Однажды в мастерской известного художника Владимира Цеслера меня познакомили с директором этой школы. А посоветовала этому прекрасная женщина Ирина Стальная – ее можно назвать культуртрегером молодых творческих сил Беларуси. Поначалу я не очень верила в то, что поступление осуществимо. Отослала документы и… положила этот план на дальнюю полку своей памяти. Но однажды позвонили из французского консульства: «Вы когда за визой своей придете?» Впрочем, дело не в этом. Главное – итог обучения во Франции. Произошло очень сильное личное творческое переформатирование. Хотя адаптироваться в первый момент было очень и очень сложно.

**– Не было порывов уехать?**

– Были… Думала, что никогда не впишусь в чужую реальность и нечего мучиться. Я не понимала экспериментальное кино, не понимала, зачем это лично мне надо делать. Была в состоянии сильной растерянности: что, как?.. Ведь я даже не говорила по-французски. Вообще! Надеялась, что в школе многие будут знать английский язык, но почти никто его не знал. Я очутилась на грани изоляции, пришлось с нуля быстро учить французский. Серьезный стресс…

**– Ну вы, конечно, отчаянный пловец на дальние дистанции!**

– Тем более что в Минске, перед отъездом во Францию, я работала на Белорусском телевидении, снимала серьезную программу: то есть у меня была постоянная занятость, ответственность, определенное реноме. И вдруг я в нуле. Но – выплыла! Внутри, признаюсь, жило седьмое чувство, что кривая выведет. Постепенно все стало раскладываться по своим полочкам, хотя ситуация было очень нелегкая. Но если бы я не уехала, сейчас мне было бы сложнее. Я сидела бы в Минске до сих пор в состоянии жертвы.

**– Кстати, очень характерная для многих черта.**

– Коллективная проблема. Мы привыкли впадать в это состояние и вещаем с этой позиции на мир. Что художники, что киношники…

**– Как вы думаете, почему известный кинокритик Антон Сидоренко, главный редактор «Беларусьфильма», только что покинул свою должность, ушел с киностудии?**

– Думаю, он устал. Ему как тонкому критику, видимо, сначала даже хотелось посмотреть на кинопроцесс с другой стороны. И когда он увидел эти авгиевы конюшни… Мне Антон Сидоренко очень симпатичен. Он хотел все свои силы вложить в развитие белорусского кино, я это видела. Действительно горел и помогал – один из немногих на «Беларусьфильме». Как главный редактор он талантливо относился к нам, авторам, быстро читал сценарии, порой, знаю, просто ночами. В общем, не обижал режиссеров.

**– А вы что, Дарья, такой обидчивый режиссер?**

– Могу обидеться, да... Но не на критику – на равнодушие.

**Елена МОЛОЧКО.**

У СОСЕДЕЙ

# Земельная реформа в Украине

Верховная Рада во втором чтении приняла закон, который должен открыть в Украине рынок сельскохозяйственной земли. Политики называют это событие историческим, однако эксперты считают, что радоваться рано, поскольку рынок земли в Украине будет действовать со значительными ограничениями.

### Удовлетворить всех…

Закон об открытии рынка земли, которого в Украине ждали почти двадцать лет, принимали долго и эмоционально. В Верховную Раду он поступил на рассмотрение в октябре 2019 года. В первом чтении за законопроект проголосовали в ноябре. Голосование сопровождалось протестами противников отмены моратория на продажу земли. Перед голосованием во втором чтении депутатам понадобилось два с половиной месяца, чтобы рассмотреть четыре тысячи правок.

Финальный текст документа за это время кардинально изменился. Эксперты объясняют это тем, что представители пропрезидентского монобольшинства из фракции «Слуга народа» и сам украинский президент Владимир Зеленский хотели удовлетворить интересы всех: начиная от фермеров и Международного валютного фонда (МВФ), заканчивая политическими оппонентами, поскольку в самом монобольшинстве голосов в поддержку закона не хватало.

### Отсроченное предложение земли

Ранее законопроект предусматривал, что одному покупателю можно будет приобрести не более 10 тысяч гектаров. Согласно окончательной версии документа, в первые три года можно будет покупать не более 100 гектаров «в одни руки». И только с 2024 года – до 10 тысяч гектаров. С 2021 до 2024 год право на покупку земли будет только у физических лиц. Юридическим лицам покупать землю сельскохозяйственного назначения в этот период запрещено, они смогут приобретать ее только с 2024 года. Предусмотрено преимущественное право арендатора на покупку земли, которую он арендовал и обрабатывал.

Запрещено продавать землю, находящуюся в государственной собственности. Именно на этом настаивала фракция «Европейская солидарность», которая пообещала отдать свои голоса за законопроект только при условии, что на продажу государственных земель будет наложен мораторий. Банки не смогут покупать землю, однако могут быть собственниками земельных участков, полученных в порядке взыскания залога. Такие участки должны быть отчуждены у банка на торгах в течение двух лет. Цена продажи участков сельскохозяйственного назначения не может быть ниже их нормативной денежной оценки. Эта норма будет действовать до 1 января 2030 года.




Украинцы отнеслись к предложенной земельной реформе неоднозначно.

### Продажа земли иностранцам под вопросом

Не произошло изменений в порядке предоставления права иностранцам покупать землю: как говорится в финальной версии документа, иностранные компании и граждане не смогут покупать землю, пока этот вопрос не решится отдельно на референдуме. Кроме того, иностранным гражданам запрещается покупка земельных участков в 50-километровой зоне от государственной границы Украины независимо от решения референдума.

Не смогут покупать украинскую землю компании, владельцами которых являются граждане страны-агрессора. На данный момент в Украине страной-агрессором признана Россия. Также запрет распространяется на компании, акционерами или конечными бенефициарами которых являются иностранные государства, а также в случае, если невозможно установить бенефициарного владельца компании. Не будут иметь права на покупку украинской земли и компании, бенефициары которых зарегистрированы в офшорных зонах, а также компании из стран, которые не сотрудничают в сфере противодействия отмыванию доходов, полученных преступным путем, и компании под санкциями.

### Не избежать спекуляций

Эксперт по земельным вопросам Киевской школы экономики **Олег Нивьевский** считает, что формально Украина выполнила требование МВФ относительно открытия рынка земли, и поэтому украинское правительство сможет рассчитывать на возобновление сотрудничества и деньги фонда. Он считает это большим плюсом закона. В то же время, анализируя детали, Нивьевский не скрывает своего разочарования. Он обращает внимание на то, что фактически Верховная Рада продлила мораторий на продажу земли еще более чем на год и создала условия для спекуляций с землей. *«То, что юридическим лицам запретили покупать землю до 2024 года, приведет к тому, что сейчас физлица будут ее скупать для кого-то. Инвестиций фермерам это не принесет»*, – прогнозирует эксперт.

По мнению Нивьевского, такие спекуляции приведут к тому, что из-за ограниченного спроса на землю со стороны юридических лиц ближайшие четыре года владельцы земельных паев не смогут продать свою землю по рыночной цене и будут вынуждены отдавать свои земельные участки со значительным дисконтом. *«Эффект от этого закона нулевой. Роста экономики не будет»*, – сказал Олег Нивьевский.

Кроме этого, эксперты опасаются, что спекулятивная скупка сельхозземли с целью перепродажи может привести к тому, что землю перестанут обрабатывать. *«Рынок будет серым, ведь не все, кто будет покупать, будут заниматься фермерством, а скорее купят на всякий случай с целью перепродажи и будут ждать увеличения цены на нее»*, – говорит эксперт по земельным вопросам Украинского клуба аграрного бизнеса **Эллина Юрченко**.

### «Потерянный шанс»?

Аналитиков смущает то, что норма о проценте концентрации земли «в одни руки» в пределах области, района и одной территориальной общины вообще исчезла из закона, а юридических лиц и иностранцев украинские депутаты отстранили от возможности купить землю.

Неоднозначное отношение к принятому закону продемонстрировал и известный в Украине инвестиционный банкир **Сергей Фурса**. На своей странице в социальной сети Facebook он отметил, что теперь в Украине *«уйдет в прошлое нарушение базовых прав частной собственности, когда у человека собственность вроде бы и есть, но распоряжаться ею нельзя»*. В то же время принятый закон о рынке земли он называет *«историей о потерянном шансе»* Украины. По его словам, основной эффект от земельной реформы должен был заключаться в приросте банковского кредитования, которое привело бы к масштабному инвестированию в агросектор. Но, по убеждению эксперта, украинские агроолигархи через своих лоббистов в Верховной Раде выхолостили закон и земельную реформу.

*«Кого банки смогут кредитовать теперь? Пулы физических лиц, каждый по 100 гектаров? В итоге если и будут кредиты, то минимальные. Не говоря уже о том, что запрет для иностранцев покупать землю отсекает иностранные инвестиции, которые нам вроде бы и нужны»*, – написал банкир на своей странице в Facebook. Фурса считает, что принятый закон об открытии рынка земли в Украине нельзя назвать полноценной реформой.

(DW)

